# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 КРАСАВІК 7 СЕРАДА

№ 66 (501)

Цана 3 рублі


● НА СЕСІІ МІНГАРСАВЕТА

## РАЗЫШЛІСЯ, НЕ ДАГАВАРЫЎШЫ

Уласн.інф.«ДВ».

Апошні дзень работы XI сесіі Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў плённым пры ўсім жаданні назваць нельга. Доўга і пакутліва шукалі дэпутаты шляхы вырашэння пытання аб межах кіравання і распараджэння камунальнай маёмасцю, але да згоды так і не прыйшлі. Некаму вельмі не хацелася дэлегаваць гарвыканкаму хоць кропельку сваіх паўнамоцтваў, некаму вельмі карцела пагаварыць абы пра што, толькі не пра змест пытання, а некаму, як падалося, увогуле было далёка не да сесіі.

Як бы там ні было, праект у чарговы раз не набраў галасоў і зноў накіраваны ў рэдакцыйную камісію на дапрацоўку. Праўда, цяпер камісія папоўнілася новымі членамі, і ёсць спадзяванне на станоўчае вырашэнне праблемы... на новай сесіі гарсавета.

У роспачы ад незгаворлівасці дэпутатаў і непрадуманасці іх дзеянняў намеснік старшыні гарсавета Анатоль Гурыновіч, які вёў сесію, тэмпераментна ўсклікнуў: «Віншую правых і левых! Спачуваю цэнтру — прыватызацыі ў горадзе не будзе!»

А ўчора самым цікавым, бадай, было стварэнне па ініцыятыве дэпутата Веры Андрыянавай спецыяльнай камісіі, якая зоймецца даследаваннем праблемы з глазураванымі сыркамі. Справа ў тым, што сыркі гэтыя на рынках горада і ў камерцыйных структурах прадаюцца па вар'яцкіх цэнах, але ў дзіцячыя ўстановы і дзяржаўны гандаль не трапляюць. Як такое можа адбывацца, хто перадае буйныя партыі сыркоў камерсантам і за якія дывідэнды — гэта і паспрабуе высветліць камісія.

Учора сесія скончыла работу, але, бадай, ненадоўга — занадта многа тэрміновых і найважнейшых праблем стаіць перад горадам.

# СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

ПО СООБЩЕНИЯМ РИД, БЕЛАПАН И СОБСТВЕННЫХ КОРРЕСПОНДЕНТОВ «ДВ»

## ГЛАВНОЕ — КОНКРЕТНЫЙ РЕЗУЛЬТАТ

Светлана КУЛИКОВА.

5 апреля в Министерстве иностранных дел Республики Беларусь состоялась пресс-конференция в рамках семинара по минимизации последствий аварии на Чернобыльской АЭС, проводимого республиканской службой занятости молодежи и студентов совместно с ассоциациями международного труда молодежи. На конференции присутствовали представители Фонда Сороса (США), члены правления молодежного форума «Совет Европы», а также представители МИДа Республики Беларусь, Госкомчернобыля, Государственного комитета по внешним экономическим связям, Комитета по делам молодежи и различных молодежных организций, движений западных стран и СНГ. Присутствующими обсуждался чернобыльский проект, одним из основных вопросов которого было создание на территории бывшего пионерского лагеря «Зубренок» оздоровительной базы для детей, пострадавших от чернобыльской аварии.

Выступавшие говорили о том, что экономически невыгодно возить группы детей лечиться и отдыхать за рубеж. Гораздо дешевле и разумнее все средства, которые расходуются на поездки за границу, потратить на создание оборудованного оздоровительного центра на территории Беларуси в экологически чистых зонах. Оздоровление детей на Западе обходится в 10 раз дороже. Западные партнеры готовы обучить наших врачей, поставить медицинское, техническое оборудование. Для них важно видеть конкретные результаты своей помощи.

□ ТОРГИ

## 206 ТЫСЯЧ — ЗА ШАНС ПРИОБРЕСТИ КВАРТИРУ

Соб. инф. «ДВ»

Самым ходовым товаром на очередных торгах Белорусской фондовой биржи был муниципальный заем на право розыгрыша квартиры. У Национального банка было куплено три облигации займа номинальной стоимостью в 200 тысяч рублей, 400 тысяч рублей, 600 тысяч рублей соответственно за 206 тысяч рублей, 412 тысяч рублей, 617 тысяч рублей.

Шла торговля и краткосрочными кредитами Национального банка под годовой процент от 155 до 217. Максимальный предел был ниже зафиксированного на прошлых торгах, что, впрочем, нельзя констатировать как приостановку инфляции.

А вот сделок с российскими рублями не было. Волею Национального банка Белорусская фондовая биржа отныне имеет право торговать только векселями, что, естественно, осложняет погашение и продажу долговых обязательств. Именно поэтому несколько лотов по продаже российских рублей по довольно приемлемым ценам не были востребованы — сделок не было.

□ КОРАТКА

**25 КРАСАВІКА ў Мінску адбудзецца аб'яднаны аднаўленчы з'езд Усесаюзнага ленінскага камуністычнага саюза моладзі. Удзел у ім прымуць прадстаўнікі камсамольскіх арганізацый трох рэспублік: Беларусі, Украіны, Расіі.**

* * *

**Состоялась официальная церемония передачи здания посольства США от белорусского правительства американскому правительству. С нашей стороны в ней принял участие заместитель министра иностранных деп В.А.Остапенко.**

□ ЗВАРОТЫ

## УНІЯТЫ — ЗА ПАЗІЦЫЮ ШУШКЕВІЧА

АЛЕСЬ СЯРГЕЕЎ, «ДВ».

У рэдакцыю газеты паступіў зварот мінскіх вернікаў уніяцкай канфесіі да Прэзідыума ВС Рэспублікі Беларусь, пад якім стаіць 64 подпісы.

У гэтым дакуменце, дарэчы, гаворыцца:

**«Мы, вернікі Грэка–Каталіцкай царквы г.Мінска занепакоены спробай рэакцыйных колаў аднавіць палітыку ваенных блокаў і ўзброенага супрацьстаяння. Выказваем падтрымку ўзважанай ды шляхетнай пазіцыі Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, які паслядоўна абараняе нейтралітэт і незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. Молім Бога аб тым, каб шматпакутны беларускі народ не быў уцягнуты бессаромнымі палітычнымі гандлярамі ў ваенныя авантуры афганістанскага кштапту. Заклікаем вас несці людзям мір і спагаду, а не зло і нянавісць. Даруй вам Божа! Бо не ведаеце цану ўчынкам сваім».**

Такім чынам, мінскія уніяты падтрымліваюць у гэтай праблеме, якая звалілася на нашыя галовы, акрэсленую пазіцыю спікера. Ці застанецца Станіслаў Станіслававіч верны свайму слову? Адказ на гэтае пытанне дадуць падзеі бліжэйшых дзён.

## «ЗАПАД» ЖДУТ БОЛЬШИЕ ПЕРЕМЕНЫ?

Пока жители восточной части белорусской столицы «спят спокойно», у горожан из микрорайона «Запад», похоже, в скором времени появится шанс стать свидетелями крупной международной стройки. Ведь именно эта часть города выбрана его властями для реализации проекта строительства технопарка с передовой экологически чистой технологией. Идея уже получила одобрение в постоянных комиссиях Верховного Совета республики.

Возведение технопарка обеспечит 20 тысяч новых рабочих мест. Кроме того, предусматривается и социальное обустройство этого объекта. Уже сегодня есть заявки от зарубежных фирм, готовых инвестировать его строительство.

БЕЛИНФОРМ.

## СТУДЭНТЫ СУПРАЦЬ ВАЕННАГА САЮЗА

ТАЦЦЯНА ЛАЗОЎСКАЯ.

Збор подпісаў супраць заключэння ваеннага саюза з Расіяй пачалі прадстаўнікі Задзіночання беларускіх студэнтаў, якія абсталявалі свой пункт, бадай, у самым мнагалюдным месцы сталіцы — ля галоўпаштамта.

— Мы лічым, што ваеннае пагадненне з Расіяй супярэчыць абвяшчэнню Беларуссю статуса нейтральнай дзяржавы, — сказалі студэнты. — Дзе гарантыя, што былы старэйшы брат не ўцягне нас у чарговыя палітычныя разборкі. Але беларуская моладзь не хоча абараняць чужыя інтарэсы.

З гэтай нагоды 8 красавіка на пляцы Незалежнасці ў 9 гадзін раніцы адбудзецца пікетаванне, якое правядуць дэмакратычныя сілы і грамадзяне сталіцы, якія выступаюць супраць ваеннага пагаднення. А ў 17 гадзін плануецца сустрэча з дэпутатамі ад апазіцыі БНФ, якія праінфармуюць выбаршчыкаў аб тым, як вырашылася пытанне.

● ОФИЦИАЛЬНЫЙ ОТДЕЛ

## РЕШЕНИЕ ГОРИСПОЛКОМА

*ОБ УЛУЧШЕНИИ ЖИЛИЩНО–БЫТОВЫХ УСЛОВИЙ РАБОТНИКОВ УЧРЕЖДЕНИЙ КОМИТЕТА НАРОДНОГО ОБРАЗОВАНИЯ, КУЛЬТУРЫ, СПОРТА И ПО ДЕЛАМ МОЛОДЕЖИ МИНГОРИСПОЛКОМА*

**В целях улучшения жилищно–бытовых условий работникам комитета народного образования, культуры, спорта и по делам молодежи Минский городской Совет народных депутатов**

**РЕШИЛ:**

Разрешить управлению народного образования Мингорисполкома на базе общежитий ПТУ №№ 12, 24, 52, 103, 63 создать малосемейные общежития, разрешить поселение и прописку в них семей работников комитета народного образования, культуры, спорта и по делам молодежи и других бюджетных организаций, прописанных в г. Минске и не имеющих жилплощади.

Разрешить управлению народного образования Мингорисполкома осуществлять поселение и с правом прописки в общежитиях ПТУ № 25, 114 одиноких работников комитета народного образования, культуры, спорта и по делам молодежи и других бюджетных организаций, имеющих прописку в г. Минске и нуждающихся в получении общежития.

Управлению народного образования Мингорисполкома (т. Дылян Г.Д.) в 1 квартале 1993 года:

определить по каждому конкретному общежитию ПТУ возможное количество комнат или мест для поселения и прописки;

разработать для общежитий ПТУ единые правила распорядка дня, утвердить калькуляцию за пользование койко-местом для одиноких жильцов;

обеспечить учет работников комитета народного образования, культуры, спорта и по делам молодежи, нуждающихся в общежитиях, определить системы очередности и порядок заселения в общежития..

Управлению здравоохранения Мингорисполкома (т.Беляков В.Л.) обеспечить обслуживание работников комитета народного образования, культуры и спорта и членов их семей во взрослых и детских поликлиниках по месту их проживания в общежитиях ПТУ.

Контроль за исполнением решения возложить на комитет народного образования, культуры, спорта и по делам молодежи (т.Сосновский А.В.).

□ ГРАМАДА

*Заўтра Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь вернецца да абмеркавання пытання аб уступленні краіны ў сістэму так званай калектыўнай бяспекі. Тым самым пад пагрозу ставіцца галоўны канстытуцыйны прынцып існавання нашай дзяржавы, прынцып, за які нас паважаюць і прымаюць у свеце. Прынцып доўгачаканы і жаданы для беларусаў, і гэта асабліва востра адчуваецца сёння, калі мноства людзей выказваюць сваю нязгоду з намерамі ўрада.*

*Шэраг дэпутатаў Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў (М.Пліска, А.Завадскі, І.Чарняўскі, Г.Стэльмах, А.Гурыновіч, Г.Куневіч, М.Кобаса і іншыя — усяго 58 подпісаў) звярнуліся да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Нам падаецца цікавым і значным тэкст Звароту:*

«Пэўная частка народных дэпутатаў беларускага парламента не пакідае надзеі, пад прыкрыццём размоў аб неабходнасці эканамічнага саюза краін СНД, прыняць рашэнне аб удзеле Беларусі ў сістэме калектыўнай бяспекі.

Настойлівасць, з якой праштурхоўваецца гэта рашэнне, пры адсутнасці рэальнай ваеннай пагрозы сведчыць аб тым, што прадстаўнікі ваенна-прамысловых колаў Беларусі і былой партнаменклатуры не жадаюць сур'ёзна заняцца перабудовай народнай гаспадаркі на рыначны лад, выбралі звыклы для сябе шлях захавання мілітарызаванай каманднаадміністрацыйнай эканомікі, шлях, які можа ў недалёкім будучым прывесці да страты дзяржаўнай незалежнасці краіны.

Гісторыя Беларусі сведчыць, што ўдзел нашага народа на баку Расіі ў войнах XIX-XX ст.ст. не прынёс яму нічога, акрамя незлічоных матэрыяльных і шматлікіх людскіх страт.

На нас ніхто не збіраецца нападаць і ніхто не будзе працаваць за нас у знак удзячнасці за ўступленне ў ваенны саюз. Наадварот, гэта, пры нестабільнасці палітычнай сітуацыі ў Расіі, будзе садзейнічаць уцягванню рэспублікі ў крывавыя канфлікты, якія не затухаюць у Расіі і ў краінах СНД.

Ваенны саюз — гэта дадатковыя ваенныя расходы, а, значыць, і далейшае падзенне і без таго нізкага жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

Мы заклікаем Вярхоўны Савет не змяняць артыкул 10 «Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь», якая замацавала нейтральны статус нашай дзяржавы, а Савету Міністраў у сваёй дзейнасці строга прытрымлівацца гэтага канстытуцыйнага палажэння».

Са Зваротам да народа Беларусі выступілі дэпутаты апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, якія лічаць, што «над нашай краінай навісла пагроза страты незалежнасці і сацыяльнай перспектывы. Пракамуністычная большасць Вярхоўнага Савета і ўрада пачала адкрыта праводзіць палітыку, накіраваную на ліквідацыю нейтралітэту Беларусі... Гэтая палітыка вядзе да адмаўлення ад суверэнітэту».

Управа БНФ «Адраджэньне» прыняла Зварот да дэмакратычных арганізацыяў, прафсаюзаў, партыяў і рухаў Беларусі з заклікам «падтрымаць супраціўленне здрадзе, стаць на абарону нейтралітэту і незалежнасці Беларусі».

*Заяву, якая адмаўляе магчымасць удзелу Беларусі ў ваенных блоках, прыняла Рада Менскай гарадской арганізацыі Беларускай сацыял–дэмакратычнай Грамады, якая падкрэсліла, што «ваенныя саюзы — смяротная пагроза для Беларусі».*

*З падобнай жа заявай выступіў Кансультатыўны савет патрыятычных і дэмакратычных сілаў Кастрычніцкага раёна сталіцы.*

# КАЛЯНДАР:

*Серада, 7 красавіка*
*СОНЦА — 6.29/19.55*
*Даўжыня дня — 13.26.*
*МЕСЯЦ — поўня 6 красавіка*
*захад 6.10/усход 21.16*
*ІМЯНІНЫ:*
*Праваслаўныя: Аляксандра, Ціхана.*
*БЛАГАВЕШЧАННЕ НАЙСВЯЦЕЙШАЕ БАГАРОДЗІЦЫ.*
*Каталіцкія: Даната, Руфіма, Яна.*
*НАРОДНЫ КАЛЯНДАР:*

**Благавешчанне, Звеставанне** — *веснавое хрысціянскае свята. У беларусаў Звеставанне лічылася днём прыходу вясны — пачыналася яе гуканне. На свята катэгарычна забаранялася працаваць: «На Благавешчанне дзеўка касу не пляце, птушка гнязда не ўе».*

*На Звеставанне дождж — ураджай на жыта, грыбное лета; снег — лета мокрае. Сухое, цёплае надвор'е — лета засушлівае, а восень марозная.*

● СО СЛОВОМ БОЖЬИМ

## БЛАГОВЕЩЕНИЕ

ОТЕЦ ГЕОРГИЙ, Свято-Петро-Павловский собор.

Дева Мария жила при храме, учась и работая. Когда она выросла, то по обычаю ее должны были выдать замуж. Однако она сказала, что дала обещание никогда не выходить замуж. Тогда Марию взял к себе в дом дальний ее родственник, вдовец, плотник Иосиф, живший в маленьком городке Назарете, на севере от Иерусалима. У него были дети — сыновья и дочери от его умершей жены.

Мария поселилась у него, помогая в работах и хозяйстве, но женой его никогда не стала.

Однажды, когда Она была одна, явился Ей Архангел Гавриил и сказал: «Радуйся, благодатная, Господь с Тобой. Благословенна ты между женами!»

Мария смутилась от вида ангела и слов его и стала размышлять, что бы могло значить это приветствие? Ангел, видя Ее смущение, сказал:

— Не бойся, Мария, ты обрела благодать у Бога: у Тебя родится Сын и Ты назовешь его Иисус. Он будет Сыном Бога Всевышнего и наследником престола царя Давида. Он будет царствовать над Израилем и Царству Его не будет конца!

Мария спросила:

— Как это будет, когда у меня нет мужа?

Ангел ответил:

— Дух Святой найдет на Тебя и Сила Божия осенит Тебя. Поэтому Свято будет рожденное от Тебя и назовется Сыном Бога.

Тогда Мария сказала:

— Я Раба Господня, пусть будет Мне по сказанному тобой.

И Ангел отошел от Нее.

Мария стала ждать рождения Сына, обещанного Ей Богом. Покорно и смиренно, с глубокой верой приняла Она слова ангела. Она не гордилась, что Сын Ее будет царем, а смиренно готовилась стать Матерью Сына Божия, становящегося человеком.

Обещание Архангела деве Марии было началом исполнения той радостной вести, которую через пророков Бог так часто обещал людям и которую уже несколько столетий ждали в еврейском народе. Спаситель должен был теперь родиться и принести людям свободу от греха, научить их любви к Богу и людям. Не могло быть вести радостней, важнее, больше, чем эта. Как будто вся земля ожидала ее, всем она принесла огромную радость.

У православных этот праздник Благовещения празднуется особенно торжественно 25 марта (старого силя, 7 апреля — нового). В этот весенний день был обычай выпускать на волю птичек из клеток, в знак того, что все живое радуется освобождению от греха.

В этот день никто не работал, и есть поговорка, что на Благовещение даже птицы не вьют гнезд. Все живое радуется вести о пришествии Бога.



● ФОТОФАКТ

## К О Н В Е Р С И Я

ФОТО ВАЛЕРИЯ АЛЕШКЕВИЧА, БЕЛИНФОРМ.

*На базе «Лесная» под Барановичами приступили к разборке узлов и уничтожению фюзеляжей боевых самолетов МИГ-27. Эта акция проводится в соответствии с международным соглашением по обычным вооруженным силам в Европе. На первом этапе будет ликвидировано десять единиц боевой техники. Часть полученных при разборке материалов поступит для нужд народного хозяйства.*

**НА СНИМКАХ: момент ликвидации фюзеляжа МИГ–27; эти машины подлежат ликвидации.**

● ПО СЛЕДАМ НАШИХ ПУБЛИКАЦИЙ

## ВИНОВАТ КАЛЕНДАРЬ

Соб. инф. «ДВ»

Первое апреля обрушилось на минчан «градом» сообщений о находках, открытиях, бесплатной черной икре и рыбе, совминовских заявлениях, превращении республики в конституционную монархию и прочее, прочее. Внесли свой посильный вклад в общее дело осмеяния нашей действительности и журналисты «ДВ». Сенсация, освещавшаяся в заметке «Глоба прав?», оказалась также не больше, чем шуткой. Хотя, как раз это, может быть, и огорчит тех из наших читателей, кто хотя и остался дома, но поверил в обращение ГКЧП. И «душой» был с теми романтиками, кто в субботу вечером пришел на площадь Якуба Коласа, захватив с собой рюкзак, лопату и фонарик. Сегодня мы можем сказать, что поверили в это сообщение не только наши читатели, звонившие в редакцию и уточнявшие детали экспедиции, но даже некоторые журналисты. Но все же нам немножко неловко, что не все обратили внимание на дату выхода газеты и не увидели «торчащие уши» в этой заметке, хотя, верим, что у большинства эта шутка, как и подобает, вызвала улыбку. Тем более, что, к примеру, шутка о предстоящем в первоапрельскую ночь фейерверке подняла на ноги чуть ли не всех студентов института культуры, которые дружно совершили вечерний променад от Рабкоровского переулка к проспекту Машерова.

Мы виноваты и перед уважаемым многими Павлом Павловичем Глобой, имя которого упомянули всуе, и торжественно заявляем, что с вниманием относимся к его предсказаниям и для сведения сообщаем, что он не «прав», не «лев», а по солнечному гороскопу — «Рак».

В связи с вышеуказанным мы сообщаем, что сотрудник редакции, выпустивший вышеозначенную шутку-«утку» в свет, будет примерно наказан.

Он переводится на работу в другое место (предположительно в здание нового корпуса Дома печати) и будет обязан отработать 1 (один) субботник в субботнее время, где сможет осмыслить роль и место юмора в нашей действительности. Кроме того, в ближайшем будущем к нему будут применены и меры материального воздействия, которые, будем надеяться, поспособствуют увеличению доли правды в его шутках и постепенному отбеливанию присущего данному субъекту черного юмора.

А вообще мы только рады, если наш первоапрельский номер хотя бы немножко улучшил ваше настроение в наше совсем не располагающее к юмору время.

## УДАКЛАДНЕННЕ

**У нумары газеты за 16 сакавіка г.г. была змешчана гутарка нашага спецкарэспандэнта Алеся Мікалайчанкі з народным дэпутатам Беларусі Лявонам БАРШЧЭЎСКІМ. На жаль, з-за няўважлівасці аўтара была недакладна названа грамадская пасада спадара Баршчэўскага ў БНФ «Адраджэньне»: Лявон Пятровіч — не намеснік старшыні сойму Народнага фронту, як было надрукавана, а сябра сойму згаданага руху. Журналіст прыносіць свае прабачэнні Лявону Баршчэўскаму за памылку. Алеся Мікалайчанку кіраўніцтва рэдакцыі папярэдзіла аб недапушчэнні падобных агрэхаў у ягонай творчай рабоце.**

● ВЕРТУШКА «МУЗАМБАРА»

## «ЗАРТИПО» ВОЗВРАТИЛОСЬ В МИНСК.. А ТОМАС АНДЕРС НЕ ДОЕХАЛ

АНАТОЛИЙ ЧЕПИКОВ.

В субботу, в 19.00, в Доме ветерана (ул. Я.Купалы, 21) состоялся совместный концерт минской группы «Зартипо» и швейцарского музыканта Ги Беттини.

Последнее выступление «на Родине» у группы состоялось летом прошлого года, после чего она в составе А.Иванова (гитара, синтезатор), В.Башкова (бас-гитара), А.Зайцева (барабаны, перкуссия), А.Ляшкевича (скрипка, звукорежиссер) отбыла в Берлин.

Отработав несколько недель в тамошних клубах и приняв участие в двух фестивалях, ребята вернулись домой с новым приглашением на выступления, чем и неприминули воспользоваться в феврале этого года. Собираясь в скором времени в Германию в третий (!) раз, «Зартипо» планирует выпустить там свой компакт-диск. Тем более, что музыкального материала для него достаточно — после 1991 года (выпуск на «Мелодии» первой пластинки группы) не было записано ни одной новой программы: сказывается отсутствие в Беларуси профессиональных студий для работы музыкантов. А ехать куда-нибудь просто дорого.

Играя, по собственному определению, «инструментальную музыку на стыке рока, джаза, современной камерной музыки и авангарда», музыканты, по моему мнению, сделали смелую попытку, организовав концерт в Минске.

В последнее время все артисты (даже корифеи отечественного шоу-бизнеса), жалуются на недостаток зрителя. «Перекормили», что говорится. А учитывая, что «Зартипо» играет непопулярную в данный момент в нашей стране музыку, концерт мог просто провалиться, чего бы не хотелось — композиции просто очаровывают своей чистотой и профессиональностью.

Слава Богу, народ пришел, и худо-бедно к началу концерта половина зала была заполнена.

Отыграв час с лишним, музыканты продемонстрировали еще раз, что авангардная музыка в Беларуси жива и у нее большое будущее.

* * *

И еще. В понедельник вечером закончились двухдневные выступления групп «На-на» и «Энигма» в рамках благотворительной программы «Помоги!» — все собранные средства пойдут на лечение больный детей из СНГ в Германии. Очень жаль, но не приехали объявленные в афишах дуэт «Барокко», Анка, Томас Андерс (заболел после выступления в Москве) и Си-Си Кетч. Но самое главное, что даже и «малым составом» артисты доставили радость зрителям, которые, немного «подувшись» на устроителей, начали вовсю выражать восторг от всех Володей — Левкина, Осимова и Политова («На-на») и Энди Марка...

● РЭПЛІКА

## КРОПКА ЗДЫМАК, ЯК ПРАЦЯГ ПУНКТА ПОГЛЯДУ

МІХАІЛ ГАВАРЭНЬ.

Цікавая гэта з'ява — тэлебачанне. Так, менавіта з'ява. Бачыш сваімі вачамі ў жыцці адно, а на тэлеэкране — зусім іншае. Так, зусім нядаўна, ў праграме «Панарама» паказалі «бушуючую» ў падтрымку прэм'ера плошчу Незалежнасці, афганцаў з плакатамі: «Так — саюзу!» І неяк умудрыліся не заўважыць побач куды большую колькасць дэманстрантаў з плакатамі: «Кебіча — у адстаўку!» І «Не — саюзу!» Што тут сказаць, чым растлумачыць гэту курыную слепату?

Увогуле, каб глядзець БТ, трэба прыкладаць пэўныя намаганні і пераадольваць жаданне пераключыць тэлевізар на РТБ ці «Астанкіна». Асабліва рэзкі кантраст, калі следам за шматкаляровай, поўнай драматызму і нечаканых паваротаў мексіканскай мыльнай операй пачынаецца трансляцыя шэранькай сесіі Вярхоўнага Савета.

Поўная адсутнасць дынамізму, аратарскага майстэрства (успомнім, якімі Цыцэронамі праявілі сябе дэпутаты на расійскім з'ездзе, калі ганьбілі прэзідэнта Ельцына), свежых думак і ідэй. Выходзіць дэпутат да трыбуны, а ты ўжо ведаеш, аб чым і якімі словамі ён будзе выступаць. Лепш бы не выступаў зусім, бо нічога новага сказаць не зможа пры ўсім жаданні. І дзякуй тэлебачанню, што яно буйным планам паказала ўсяму народу наш так званы дэпутацкі корпус, яго няздольнасць думаць, развалжаць і прадбачыць развіццё падзей.

Новыя перадачы аб новым парламенце чакаюць нас праз год. Няўжо рэжысура і акцёры застануцца ранейшымі?

